

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# наша слова.pdf



**Другі год выдання** **№ 26 (78) 28 чэрвеня 2023 г.**


# "Дняпроўскія галасы ў Дуброўне"

24-25 чэрвеня ў Дуброўне Віцебскай вобласці прайшоў XXIX Міжнародны фестываль песні і музыкі "Дняпроўскія галасы ў Дуброўне - 2023".



Міжнародны фестываль песні і музыкі "Дняпроўскія галасы ў Дуброўне" - грамадска-культурнае, мастацка-творчае мерапрыемства, якое спрыяе развіццю культуры і мастацтва розных народаў, адраджэнню народнай творчасці, асноўнымі мэтамі якога з'яўляецца:

- адраджэнне, развіццё, папулярызацыя лепшых традыцый і дасягненняў нацыянальнай, сусветнай культуры і мастацтва, прылучэнне да іх шырокіх пластоў грамадства;
- развіццё і ўмацаванне міжнародных культурных сувязяў, абмен духоўнымі і культурнымі каштоўнасцямі, падтрымка замежных беларускіх дыяспар;
- эстэтычнае выхаванне падрастаючага пакалення на лепшых узорах народнай песні і яе папулярызацыя;
- арганізацыя вольнага часу насельніцтва;
- паказ дасягненняў у вобласці музычнага, харавога, харэаграфічнага мастацтва, народнай творчасці.

Фестываль песні і музыкі "Дняпроўскія галасы ў Дуброўне" пачынаўся 28 гадоў таму назад у дзень святкавання 600-годдзя г. Дуброўна, як абласны музычна-песенны агляд. Агляд перарос межы горада, затым вобласці і, нарэшце, рэспублікі, стаў спачатку рэгіянальным, а ў 2004 годзе - міжнародным.

XXIX Міжнародны фэст песні і музыкі сабраў на гасціннай дубровенскай зямлі творчыя калектывы Расіі, Арменіі, Латвіі і Беларусі.

На ўрачыстым адкрыцці фэсту з вітальным словам выступілі Уладзімір Цярэнцеў, старшыня Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў, і Анатоль Лукашоў, старшыня Дубровенскага райвыканкама.

Удзельнікі фэсту прайшлі маляўнічай калонай па вуліцах Дуброўны.






У адпаведнасці з праграмай фестывалю ў Дуброўне прайшоў канцэрт "Салаўіныя ноткі". У Дуброўне прайшоў спектакль "Ты памятаеш, Алёша?" У Дубровенскім аздараўленчым лагеры прайшла дыялогавая пляцоўка. Адбылося мноства іншых самых розных мерапрыемстваў.

*(Заканчэнне на ст. 22.)*





*На літаратурнай хвалі*

# Жадалі выдаць дзясятую кнігу, а па магчымасці і яшчэ

У рамках чарговага пасяджэння літаратурнага аб'яднання "Суквецце" ў канферэнц-зале Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы адбылася прэзентацыя новай, ужо восьмай па ліку, кнігі аднаго з найстарэйшых і самых аўтарытэтных пісьменнікаў Лідчыны Уладзіміра Гаўрылавіча Васько "Неабдымнае". У кнізе змешчаны вершы, байкі і апавяданні пісьменніка, у тым ліку раннія вершы, якія не ўвайшлі ні ў адзін з яго папярэдніх зборнікаў. Радуе, што Уладзімір Гаўрылавіч працягвае актыўна праяўляць сябе як у паэзіі, так і ў прозе, пакрысе падбіраецца да свайго дзясятага зборніка. Столькі кніг мае далёка не кожны лідскі творца.

Увазе прысутных быў прадстаўлены падрыхтаваны бібліятэкай буктрэйлер (відэаагляд) па новай кнізе Уладзіміра Васько. Падрыхтавалі бібліятэкары і выставу кніг пісьменніка, якая дзейнічала тут жа, у канферэнц-зале.

Сам Уладзімір Гаўрылавіч расказаў прысутным пра тое, як ствараласяя яго восьмая кніга, як нараджаліся асобныя творы, якія ўвайшлі ў яе. Пісьменнік прызнаўся, што вершы ў яго нараджаюцца пераважна ноччу, а над апавяданнямі ён працуе днём. Сюжэты апавяданняў падгледжаны з жыцця, але пры гэтым творы не з'яўляюцца дакументальнымі - у іх прысутнічае аўтарскі вымысел.

Галоўны бібліёграф раённай бібліятэкі Галіна Курбыка і навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, адказны за Дом Валянціна Таўлая, Алесь





Хітрун расказалі пра сяброўства Уладзіміра Васько са старшынём Саюза пісьменнікаў Беларусі, дырэктарам выдавецкага дома "Звязда" Аляксандрам Карлюкевічам, які напісаў рэцэнзію на кнігу "Неабдымнае". Гэтая рэцэнзія была змешчана ў газеце "Літаратура і мастацтва". Алесь Хітрун зачытаў яе падчас прэзентацыі кнігі ў Лідскай раённай бібліятэцы, паэтэса Ганна Гайдукевіч перадала аўтару кнігі экзэмпляр штотыднёвіка з рэцэнзіяй старшыні СПБ.

Словы ўдзячнасці Уладзіміру Гаўрылавічу выказвалі на пасяджэнні тыя з лідскіх паэтаў, творчаму станаўленню якіх ён некалі паспрыяў, з якімі ён шмат гадоў падтрымлівае сяброўскія адносіны. Вельмі шмат гадоў ведаюць Уладзіміра Васько паэты Міхась Мельнік (дарэчы, аўтар водгуку на яго першую кнігу "Прасветленасць", якая выйшла ў далёкім 1981 годзе), Ірэна Сліўко (у яе хатняй бібліятэцы маюцца ўсе восем кніг Уладзіміра Гаўрылавіча). У свой час Уладзімір Васько падтрымаў у пачатку творчага шляху Алеся Хітруна, Ірыну Маркевіч, Алу Юшко і многіх іншых паэтаў Лідчыны.

Прыемным сюрпрызам стала перадача лідскім дзіцячым паэтам Канстанцінам Якубчыкам Уладзіміру Васько нумара газеты "Уперад" (папярэдніцы "Лідскай газеты") за 1981 год, у якім змешчаны адзін з ранніх вершаў Уладзіміра Гаўрылавіча - "Сад тваёй душы" (гэты верш ёсць і ў кнізе "Неабдымнае").

Уручаліся пісьменніку і кветкі - ад "Лідскай газеты", у якой ён шмат гадоў працаваў, літаб'яднання "Суквецце", якое таксама шмат гадоў узначальваў, раённай бібліятэкі. А даўні паклоннік яго творчасці, старшыня Лідскай раённай арганізацыі Беларускага саюза ваенных маракоў Уладзімір Каспяровіч перадаў Уладзіміру Васько на памяць аб сустрэчы каляндар ад згаданай арганізацыі.






Уладзіміру Гаўрылавічу жадалі моцнага здароўя, творчага даўгалецця, каб убачылі свет і дзявятая, і дзясятая яго кнігі, а па магчымасці і яшчэ.

*Аляксей КРУПОВІЧ.*

**Уладзімір ВАСЬКО**

**Неабдымнае**

Празрысты дзень, бы ў верасні вада.
Чапляецца дымок за тэлефонны дрот.
Хто першы руку сёння мне падасць?
Каму якое я зраблю дабро?

Дзень напачатку - і ў маёй душы
варушацца вясёлыя надзеі.
Яшчэ няма аварый на шашы,
вяршацца ўсюды добрыя падзеі.

І мне здаецца, я ўдзельнік іх -
і блізкіх, і далёкіх, што не бачна.



А як шумяць над Нёманам гаі!
Як лопае крылом па хвалях качка!

І неабдымнасць неба і зямлі
мяне не як уласніка хвалюе.
Я тут, а дзесьці ружы расцвілі,
і ў Байкануры мой зямляк стартуе.

І гэта толькі радуе мяне
і прыбаўляе сілы і натхнення.
Празрыста ў полі, на пясчаным дне,
і на зямлі, і ў небе прасвятленне.

**Летнім днём**

Над возерам цалюткі летні дзень
лятаюць срэбракрылыя стракозы,
і сонца ў незабруджанай вадзе
купае пазалочаныя косы.

А воблакі, як лебедзі, плывуць
і там, на дне, і ў вышыні над лесам,
і лашчыць вецер юную траву,
нібы дзяўчыну малады гарэза.

Усё так проста, натуральна тут
жыве, расце, квітнее першародна,
і я, шчаслівы, берагам іду.
Буяй, буяй, любімая прырода!

**Крэпасць**

Старая крэпасць помніць войны
і кветкі з дыму і агню.
Тут грунт гісторыі шматслойны
раскрыўся сённяшняму дню.

Па чарапках, таблічках, ядрах
мяркуем, як жылі раней,
як чалавечы геній ярка
над цёмнай немаччу звінеў.

То ўміг мінулае ўваскрэсне,
ва ўяўленні ажыве,
то новая дэталь, як песня,
узрушыць думкі ў галаве.

Прысніцца ўночы: я тут б'юся,
і шведы падаюць ля сцен.
Куды з палком ні пахілюся -
усюды крык і дым расце.

А ранкам раптам прахаплюся
і зразумею - гэта сон.
Акно адкрыю, пакланюся
табе, каменны бастыён.

*Лідчына літаратурная*

***"І неабдымнасць неба і зямлі мяне не як уласніка хвалюе..."***

# Спроба літаратурнай рэцэнзіі

2023 год у літаратурным жыцці Лідчыны працягвае радаваць новымі кнігамі лідскіх аўтараў. Вось і нядаўна ў Лідскай друкарні выйшла кніга паэзіі і прозы аднаго з найстарэйшых і самых аўтарытэтных пісьменнікаў Лідчыны, колішняга супрацоўніка рэдакцыі "Лідскай газеты", былога кіраўніка літаб'яднання "Суквецце" пры ёй Уладзіміра Гаўрылавіча Васько "Неабдымнае". У кнігу ўвайшлі вершы, байкі, апавяданні. Гэта ўжо восьмая кніга Уладзіміра Васько. Нагадаем, што раней выйшлі яго кнігі "Прасветленасць" (1981), "На схілах берагоў" (1997), "Кругазварот жыцця" (2011), "Лясная рапсодыя" (2013), "Зігзагі лёсу" (2017), "Энергія душы" (2018), "На перавалах часу" (2021). Пачынаючы са зборніка "Энергія душы", у кнігах аўтара змяшчаюцца разам і паэзія, і проза. Новая кніга "Неабдымнае" змяшчае больш за сотню вершаў, восем баек, шэсць апавяданняў.







Адкрывае зборнік верш "Неабдымнае", які і даў назву ўсёй кнізе. Ужо з першага верша перад чытачом раскрываецца шматгранная, цікавая, няўрымслівая асоба аўтара. Аўтар сустракае кожны новы дзень з вясёлымі надзеямі, з настроенасцю рабіць добрыя справы, адчувае сябе ўдзельнікам розных падзей - і блізкіх, і далёкіх, імкнецца ўвабраць у сябе неабдымны сусвет, паўсюль чэрпае сілы і натхненне.

*І неабдымнасць неба і зямлі*
*мяне не як уласніка хвалюе.*
*Я тут, а дзесьці ружы расцвілі,*
*і ў Байкануры мой зямляк стартуе.*

Паэт вядзе актыўны лад жыцця, мае шмат захапленняў, умее радавацца ўсяму, што бачыць навокал, знаходзіцца ва ўзнёслым настроі і заклікае чытача радавацца разам з ім:

*Не варта, сяброве, нам болей журыцца*
*і ў смутку ў твары людзей пазіраць -*
*і знікне з душы небыліцай імгліца,*
*і сэрцу захочацца крылы ўзняць…*

*Не заганяю сам сябе ў скруху,*
*таму й такі парыўны, гаваркі.*
*Люблю хадзіць праз поле ў завіруху,*
*на лыжах уздымацца на грудкі…*

"Раўнадушша лёд" абыходзіць паэта, ён умее суперажываць, любіць усё жывое. "Натура ўжо такая, прывыкла на ўвесь свет агнём гарэць", - тлумачыць аўтар сваю датычнасць да ўсяго, што адбываецца навокал.





*Галоўнае - не спаць і не ляжаць,*
*а да прыроды і людзей імкнуцца:*
*касіць з расой густую сенажаць,*
*з разбегу смела ў рэчку акунуцца…*

У многіх вершах Уладзіміра Васько адчуваюцца яго захапленне роднай прыродай, імкненне зліцца з ёй. Лясных зязюль, драздоў, салаўёў паэт называе дарагімі сваякамі.

*Усё так проста, натуральна тут*
*жыве, расце, квітнее першародна,*
*і я, шчаслівы, берагам іду.*
*Буяй, буяй, любімая прырода!*

Аўтар, хоць і не пераносіць адзіноты, любіць часам пабыць на ўлонні прыроды сам-насам з сабой:

*…Я адпраўляюся, натхнёны,*
*пад стогадовы дуб адзін,*
*каб збоку паглядзець на эру,*
*асэнсаваць сябе і час…*

Паэта натхняе спеў птушак у лесе, і ён шкадуе, што *"такіх спевакоў не стае ў хрушчоўцы маёй цёмнай, цеснай"*. Аўтара абураюць варварскія адносіны некаторых людзей да акаляючай прыроды. Так, ён шкадуе пакалечаную куляй чаплю і асуджае чалавека, які выстраліў у яе:

*Ён рады, што здорава бахнуў і метка,*
*не прамахнуўся, сваё даказаў.*
*А можа, унутры бушавала гарэлка?*
*А можа, нячысцік стральнуць падказаў?*

Паэт любіць снежную, з завеямі зіму, любіць катацца такой зімой на лыжах, адчуваючы сябе ў такія моманты юным.

*Ад вёскі да вёскі на лыжах лячу,*
*не адчуваючы стомы ніякай.*
*У снежны прасцяг апантана крычу:*
*- Зіміца, сястрыца, бязмежнае дзякуй!*

Ёсць у зборніку і верш, прысвечаны Лідскаму замку - каменнаму сведку сівой даўніны. "Акно адкрыю, пакланюся табе, каменны бастыён", - выказвае аўтар у канцы верша сваю пашану да помніка старажытнасці.

Шмат у кнізе і інтымнай лірыкі, поўнай дарагіх, цёплых, хвалюючых успамінаў, яркіх карцін прыроды, трапных эпітэтаў і параўнанняў.

*Заклікаў зялёны далягляд,*
*маладое жыта красавала,*
*радасці было ў нас зашмат,*
*шчасце ў юных душах бушавала…*

*Святое святых тое месца,*
*дзе я сустракаўся з табой.*
*Пчаліная доўгая меса,*
*мядовага паху прыбой…*




Душу каханай паэт параўноўвае з расцвіўшым, свежым, светлым садам. "Эх, каб у гэтым садзе заблукаць і з яго не выбрацца святла!" - жадае ён, а таксама жадае шчасця і спакою дарагому чалавеку, каб сад гэтай душы абышоў халодны град.

Вартыя ўвагі таксама байкі і апавяданні аўтара. У байках Уладзімір Васько, як заўсёды, выкарыстоўвае яркія, каларытныя вобразы герояў - звяроў і птушак, - пад якімі падразумяваюцца людзі, а ў дыялогах герояў баек выкарыстоўваюцца сакавітыя, трапныя выразы гутарковай мовы. Яркія, запамінальныя і героі апавяданняў, як станоўчыя, так і адмоўныя. Асобных персанажаў у канцы апавяданняў насцігае кара за жорсткасць ("Злыдух"), прагу да чужых, "лёгкіх" грошай ("Нячыстыя грошы"), сквапнасць ("Жалеза пераўжыве чалавека"). У некаторых апавяданнях прысутнічае любоўная лінія ("Страта", "Пашчасціла"), паказваецца, як каханне ўзвышае чалавека, дапамагае бачыць усю прыгажосць навакольнага свету: *"Дамоў я ішоў у дзівосным, радасным настроі. Зусім не такімі, як раней, мне падаліся каровы, якія пасвіліся ўнізе на квітнеючым лузе, жыта паабапал дарогі, паблiскваючая між лоз рачулка і наша вёска, уквечаная прамымі стужкамі белых дымкоў. Усё было нейкім адухоўленым, замілаваным"*.

Адухоўленасць роднай прыроды, замілаванне ёй нязменна прысутнічаюць і ў лірыцы Уладзіміра Васько. Як ужо гаварылася раней, аўтар імкнецца зліцца з прыродай, увабраць у сябе неабдымны сусвет, яго вабіць далёкае і недасягальнае. Нездарма ў якасці эпіграфа да ўсяе кнігі ўзяты наступныя радкі:

*Забаўна на неба глядзець,*
*на Млечную бруkаванку.*
*Эх, каб з каханай туды паляцець*
*сёння ці заўтра наранку!*

***Аляксей КРУПОВІЧ.***





# У Лідзе прайшоў раённы злёт юных краязнаўцаў

Юныя краязнаўцы Лідчыны сабраліся 8 чэрвеня 2023 г. у Лідскім раённым цэнтры экалогіі, турызму і краязнаўства, каб падзяліцца вынікамі сваіх краязнаўчых даследаванняў, праведзеных акцый і рэалізаваных праектаў па вывучэнні малой радзімы, абмяняцца досведам і ідэямі на краязнаўчай канферэнцыі "Пазнаючы спадчыну, пазнаём свой край".

Злёт юных краязнаўцаў прысвечаны 700-годдзю заснаванню горада Ліда. Такія мерапрыемствы праводзяцца з мэтай абмену досведам пошукава-даследчай працы ў вобласці вывучэння гістарычна-культурнай і прыроднай спадчыны малой радзімы.





Злёт пачаўся з прывітання каманд. У гэтым мерапрыемстве прынялі ўдзел 12 школ Лідскага раёна.

Затым каманды выступілі на краязнаўчай канферэнцыі "Пазнаючы спадчыну, пазнаём свой край". Гэта тэматычная пляцоўка была прысвечана вынікам пошукава-даследчай дзейнасці. Дзеці прэзентавалі маршруты турыстычна-краязнаўчых паходаў, экскурсій, экспедыцый, падзяліліся вынікамі краязнаўчых конкурсаў і акцый, якія былі праведзены ва ўстановах адукацыі.

Лепшым адзначаны досвед працы юных краязнаўцаў СШ № 1 г. Ліды.

Знаўцы гісторыі роднага краю спаборнічалі ў квэст-гульні з элементамі арыентавання "Таямніцы лідскага летапісу". Удзельнікі павінны былі адшукаць у адпаведнасці з картай кантрольныя пункты, дзе трэба было














выканаць заданне. Асноўная тэматыка гульні - гісторыя і культура горада Ліда, знакамітыя лідзяне, гісторыя прадпрыемстваў горада і гісторыя ўстаноў адукацыі рэгёна. Перамогу падзялілі юныя краязнаўцы гімназіі № 1 г. Ліды і Першамайскай СШ.

У рамках Злёту адбыўся і фінал штогадовага раённага конкурсу "Знаходка года", на якім удзельнікі прадставілі творчую прэзентацыю "знаходкі". Намінацыі былі наступныя:

- Этнаграфічная знаходка,
- Краязнаўчая знаходка,
- Ваенна- гістарычная знаходка.

Лепшымі прызнаны знаходкі юных музеязнаўцаў Дварышчанскай СШ з калекцыяй старадаўніх манет, народнага музея Крупаўскай СШ з праектам рэканструкцыі фарнага касцёла ў г. Лідзе, Ёдкаўскай СШ (відэлец перыяду Вялікай Айчыннай вайны). По выніках злёту перамогу атрымала каманда юных краязнаўцаў Ёдкаўскай СШ. Прызёры - каманды Дварышчанскай СШ, Ваверскай СШ (2 месца), Крупаўскай СШ, Першамайскай СШ (3 месца).






Чальцы радаў народных музеяў Лідчыны былі запрошаны для ўдзелу ў абласным Злёце народных музеяў Гарадзенскай вобласці, які сёлета адбыўся 14 чэрвеня 2023 года ў г. Смаргонь. Юныя музеязнаўцы пазнаёміліся з досведам працы дзяцей са Смаргонськага раёна, пабывалі на інтэрактыўнай экскурсіі ў Крэўскім замку.

***Мадэратар райнного злёту метадыст Тацццяна Ярошка.***

# Чытаем кніжкі дашкалятам

На гучныя чытанні "Чытаем кніжкі дашкалятам" у філіял "Лідская гарадская бібліятэка № 2" запрасілі выхаванцаў ДУА "Дзіцячы сад № 29 г. Ліда" . Увазе дзетак былі прадстаўлены кнігі з серыі "Казачны домік". Зацікавілі дашкалят казкі народаў Еўропы, Індыі. З беларускіх аўтараў цікавасць выклікалі персанажы Курносік і Пушынка аўтарства М.А. Дзеравянкі.





Уключылі ў змест мерапрыемства для канцэнтрацыі ўвагі мімічныя эцюды, пальчыкавую гімнастыку, пасля прачытанага - кароткая гутарка па змесце, а таксама гульню "Знайдзі кнігу". Лепшай узнагародай за выдатна праведзены час сталі ўсмешкі дзяцей і зарад пазітыву.

***ТК "Культура Лідчыны".***





*Навіны Германіі*

# Дзяржаўны штудыенкалег

## Штудыенкалег (Studienkolleg) - падрыхтоўка ў нямецкі ўніверсітэт

Штудыенкалег (Studienkolleg) - гэта каледж, дзе студэнты з іншых краін праходзяць навучанне, якое дапаможа ім кампенсаваць розніцу паміж сістэмамі нямецкай і замежнай да-ВНУ-скай адукацыі і падрыхтаваць маладых людзей да навучання ў ВНУ на нямецкай мове. Па заканчэнні Штудыенкалега студэнты здаюць выпускны іспыт (Feststellungsprafung ці FSP), пасля паспяховай здачы якога, яны могуць паступіць у любы нямецкі ўніверсітэт. Штудыенкалегі даюць магчымасць палепшыць веды нямецкай мовы. Акрамя таго, яны рыхтуюць студэнтаў да ўніверсітэцкага жыцця і структуры навучання ў нямецкіх універсітэтах.



**Падрабязней**

Адна з асноўных умоў для залічэння ў штудыенкалег - пацверджаныя веды нямецкай мовы на мінімальным узроўні B2 (у залежнасці ад абранага ШК). У выпадку неабходнасці кансультанты Study In дапамогуць падабраць моўныя курсы ў любым горадзе Германіі з аптымальнымі ўмовамі пражывання.

Плынь ахвотнікаў прайсці навучанне ў Studienkolleg увесь час расце, і, нягледзячы на тое, што залічэнне праводзіцца два разы ў год, лік абітурыентаў па-ранейшаму перавышае колькасць навучальных месцаў. Таму рэкамендуем пачаць працэдуру афармлення як мага раней - правільна запоўніць заяву, сабраць дакументы і падрыхтавацца да здачы іспытаў. Нашы кансультанты акажуць усю неабходную дапамогу ў арганізацыі працэсу.

**Курсы штудыенкалега (Fachkurse im Studienkolleg)**
**Што такое "курсы" ў штудыенкалегах**

Калі ў вас пакуль няма права прамога паступлення ў нямецкія ВНУ (напрыклад, калі вы толькі скончылі 11 класаў), то вы будзеце накіраваны спачатку на вучобу ў штудыенкалег . У штудыенкалегах прапануецца некалькі курсаў (Fachkurs), "прывязаных" да адпаведаных кірункаў вучобы ў нямецкіх ВНУ.

Гэта значыць, у залежнасці ад таго, на якую навучальную праграму ў нямецкую ВНУ вы плануеце паступаць, вы будзеце накіраваны на адпаведны курс у штудыенкалеге.

**Тыпы штудыенкалегаў:**
**Універсітэт і прыкладная навука**

Штудыенкалегі могуць быць дзяржаўнымі ці прыватнымі. Дзяржаўныя бясплатныя (спаганяецца сямесправы ўнёсак) і прапануюць больш агульныя тэмы курсу. У прыватных Studienkollegs навучанне платнае, але яны могуць падысці тым студэнтам, якім патрэбны адмысловыя ўніверсітэцкія курсы.

Тэма навучальнай праграмы і тып універсітэта, у якім вы плануеце вучыцца ў Германіі, паўплываюць на тып Studienkolleg, у які вам трэба паступіць, паколькі розныя тэмы могуць мець розныя падыходы да навучання: G, W, T і г.д.

Штудыенкалегі падзяляюцца на два розныя тыпы: Універсітэцкія і Прыкладныя. Гэтае адрозненне вельмі важнае, паколькі ў залежнасці ад таго, які тып вы аберацe, перад вамі адкрыюцца розныя шляхі.

**Што абазначаюць літары G, W, T і г.д.?**

Літары пазначаюць вобласць навучання на нямецкай мове. Для ўніверсітэцкіх штудыенкалегаў гэта толькі адна літара:

**G:** Geisteswissenschaften (гуманітарныя навукі).
**W:** Wirtschaft (бізнэс).
**T:** Technik (тэхніка).
**M:** Medizin (медыцына).
**S:** Sprachen (мовы).

Для Studienkollegs ва ўніверсітэтах прыкладных навук прадметы маюць дзве літары:

**GD:** Gestaltung/Design (дызайн).
**TI:** Technik/Ingenieurwissenschaften (тэхніка/інжынерыя).
**WW:** Wirtschaftswissenschaften (бізнэс/эканоміка).
**SW:** Sozialwissenschaften (сацыяльныя навукі).

**Арганізацыя вучобы ў Штудыенкалеге**

Адукацыйны курс Studienkolleg уключае вывучэнне ад 5 да 7 прадметаў, заняткі праходзяць на працягу 28 -





32 гадзін у тыдзень. У адрозненне ад універсітэта, дзе прысутнасць на лекцыях - справа добраахвотная, наведванне заняткаў і здача іспытаў у штудыенкалегах з'яўляюцца абавязковымі. Навучанне доўжыцца два семестры, пасля кожнага з якіх, як і ва ўсіх ВНУ, праходзіць сесія. Апроч гэтага, амаль кожны тыдзень у ШК праходзяць кантрольныя работы і залікі. Курс навучання ў такім каледжы разлічаны ў сярэднім на адзін год. Але пры атрыманні нездавальняльных адзнак студэнтам даецца магчымасць паўтарыць семестр.

**Падача дакументаў**

Для паступлення ў Studienkolleg у Германіі заявы звычайна падаюцца не наўпрост у штудыенкалег, а ў адну з ВНУ федэральнай зямлі, дзе знаходзіцца ШК ці ва ўніверсітэт у выпадку, калі абраная ВНУ працуе з гэтай установай. Але ёсць і выключэнні, пры якіх дакументы падаюцца наўпрост у штудыенкалег.

**Кошт навучання**

Вучоба ў штудыенкалегах як правіла бясплатная, трэба выплачваць толькі невялікі семестравы студэнцкі збор. Але ёсць і выключэнні - платныя штудыенкалегі.

**Патрэбныя веды нямецкай**

Навучанне ў ШК праходзіць вылучна на нямецкай мове і нават калі вы ў будучыні жадаеце вучыцца на ангельскай, для вучобы ў штудыенкалезе ўсё адно патрэбны веды нямецкай. Нягледзячы на наяўнасць уступнага іспыту па нямецкай мове, для падачы дакументаў у штудыенкалег вам усё адно трэба дакументальна даказаць веды нямецкай на ўзроўні B1 ці B2 (у залежнасці ад абранага ШК). У некаторых ШК магчыма вызваленне ад уступнага іспыту па нямецкай пры падання моўных сертыфікатаў вызначанага ўзроўню (напрыклад, DSD II ці TestDaF 4444). Вы маеце перавагу перад іншымі абітурыентамі, калі пры падачы дакументаў прыкладваеце сертыфікат з добрым вынікам іспыту TestAS.

**Штудыенкалег экстэрнам**

Ёсць магчыма здаць выніковы іспыт (Feststellungsprafung) экстэрнам, гэта значыць не наведваючы год штудыенкалег. Але нельга недаацэньваць складанасць гэтага іспыту. Навучэнцы, якія наведваюць штудыенкалег, на працягу цэлага года па 30 гадзін заняткаў у тыдзень рыхтуюцца да гэтага іспыту. Калі вы здаяце Feststellungsprafung экстэрнам, то вы, хоць і не марнуеце цэлы год на вучобу ў штудыенкалезе, але вашы шанцы на здачу іспытаў значна памяншаюцца. Паводле статыстыкі прыёмных камісій штудыенкалегаў, адсотак тых, якія здалі выніковы іспыт экстэрнам вельмі нізкі. Гэта трэба ўлічваць, бо ў некаторыя штудыенкалегі вас не прымуць, калі вы ўжо хоць раз правальвалі Feststellungsprafung.

**Месца далейшага навучання пасля заканчэння штудыенкалега**

Дыплом пра здачу выніковага іспыту ў штудыенкалезе прызнаны па ўсёй Германіі. Гэта значыць пасля любога штудыенкалега вы можаце паступаць у любую ВНУ Германіі (але толькі на спецыяльнасці ў рамках пройдзенага курсу). Але мы настойліва рэкамендуем адразу падаваць дакументы ў штудыенкалег менавіта той федэральнай зямлі, дзе вы плануеце ў далейшым вучыцца ў ВНУ, бо існуе конкурс і абмежаваная колькасць месцаў, і перавага будзе аддавацца ў першую чаргу абітурыентам, якія скончылі штудыенкалег у "сваёй" федэральнай зямлі. Фінансавы бок пражывання ў Германіі мае на ўвазе грашовыя выдаткі парадку 600 еўра ў месяц, прычым у некаторых вялікіх гарадах, такіх як Штутгарт, Мюнхен, Франкфурт-на-Майне і іншых, гэта лічба можа дасягаць 800 еўра і вышэй. Навучэнцы Studienkolleg звычайна маюць абмежаванае права на працу (напрыклад, толькі на вакацыях / па выходных / па святах), а часам зусім не атрымліваюць права на працу. Таму раім загадзя прадумаць парадак фінансавання вашай адукацыі.

**Перавагі штудыенкалега:**

Зносіны ў натуральным моўным асяроддзі і, як вынік, вольнае валоданне нямецкай мовай.

Магчымасць папоўніць прабелы ў школьных ведах.

Студэнцкія льготы - бясплатнае карыстанне бібліятэкамі, універсітэцкай сталовай, льготны праезд у грамадскім транспарце, зніжкі ў кіно, тэатры, музеі, спартовыя комплексы і іншае

Практыка паказвае, што выпускнікі Studienkolleg лягчэй адаптоўваюцца ў студэнцкім жыцці, ім лягчэй даецца вучоба, і яны хутчэй і паспяховей заканчаюць навучальныя ўстановы ў адрозненне ад студэнтаў, не прайшоўшых папярэдняга курсу ў каледжы да-ВНУ-скай падрыхтоўкі.

**Патрабаванні да паступаючых**

Школьны атэстат пра заканчэнне 11 класаў. Пасля каледжа ці тэхнікума трэба адвучыцца год у акрэдытаваным ВНУ.

Моўны сертыфікат пра веды нямецкага Goethe Zertifikat, DSD, USD, telc ці TestDaF не ніжэй B2, чым вышэй узровень - тым больш шанцаў на паступленне.

Навучальная віза - для адкрыцця неабходны дэпазіт 11208 € на блакаваным рахунку ці паручальнік у Германіі. Шэнгенская віза не падыходзіць.

Уступны іспыт - пісьмовы іспыт у Германіі па нямецкай мове (гуманітарны курс) і матэматыцы (тэхнічны, эканамічны, медыцынскі курс).

***Study In.***





*Кс. Браніслаў Усас*

# Пасмяротная перагрынацыя парэшткаў караля Станіслава Ляшчынскага з Ленінграда ў Вавель

Я - адзін з двух яшчэ жывых удзельнікаў вывазу з Пецярбурга ў Польшчу парэшткаў Станіслава Ляшчынскага і таму вырашыў запісаць некалькі заўваг, якія дапаўняюць і часткова карэктуюць інфармацыю, пададзеную п. Прус-Фашчэўскім у артыкуле "Парэшкі Станіслава Ляшчынскага" (Kronika. 1938. № 31).

У 1857 г. труну з парэшткамі Станіслава Ляшчынскага паклалі ў скляпеннях Пецярбургскага касцёла св. Кацярыны не з-за "намаганняў Анджэя Замойскага і польскай калоніі ў Пецярбургу", як піша Прус-Фашчэўскі, але па загадзе расійскай адміністрацыі. Згодна з архіўнымі дакументамі ў Імператарскай публічнай бібліятэцы (ІПБ) ў Пецярбургу, гэта справа мела наступную гісторыю[1].

Барон Корф, заняўшы пасаду ў Пецярбургскай ІПБ знайшоў яе ў вельмі жаласным стане. Не толькі кнігі і рукапісы, канфіскаваныя пасля паўстання 1831 г. не былі канчаткова каталагізаваныя, але нават значная частка кніг, прывезеных з Варшавы ў 1795 г., ляжала не распакованай. Корф энергічна ўзяўся за ўпарадкавання бібліятэкі. Падчас гэтай працы і была знойдзена малая труна з парэшткамі Ст. Ляшчынскага. Пасля амаль што двух гадоў пошукаў у расійскіх архівах і адпаведнай перапісцы паміж міністэрствам двара і міністэрствам асветы, стала зразумела, што труна была перададзеная ў ІПБ у 1834 г. па загадзе цара Мікалая І. Таму Корф праз міністра двара графа Адлерберга звярнуўся да Аляксандра ІІ з прапановай перадаць труну археалагічнаму музею ў Вільні, лічачы, што Вільня будзе *"более приличным местом для хранения"*. Аднак імператар палічыў, што перадача труны ў Вільню, *"калісьці другую сталіцу Польшчы, была б вялікай палітычнай памылкай і раней ці пазней магла б даць падставу для якіх-небудзь варожых дэманстрацый супраць расійскага ўраду"*. Таму Аляксандр ІІ загадаў пакласці труну ў магілу караля Станіслава Аўгуста, якая знаходзілася ў скляпеннях касцёла св. Кацярыны. На падставе гэтага загаду, 15 траўня 1857 г. Корф перадаў труну міністру ўнутраных спраў Ланскому, які выдаў адпаведны загад дырэктару дэпартамента замежных веравызнанняў графу Сіверсу.

Пра тое, як прайшла цырымонія пахавання праху Ст. Ляшчынскага, маем вартыя даверу сведчанні ксяндза Адама Станіслава Красінскага[2], пазнейшага віленскага біскупа і шматгадовага ссыльнага ў Вятку, які памёр у 1891 г. у Кракаве. Стары ссыльны ў лісце да рэдактара газеты "Край" (Пецярбург, 1884. № 17) успамінаў, што ў выніку пастановы міністра Ланскога і магілёўскага мітрапаліта Жылінскага, ён разам з графам Сіверсам склаў акт на лацінскай мове. *"На наступны дзень,* - працягваў біскуп, - *мітрапаліт паехаў са мной і графам Сіверсам да касцёла св. Кацярыны, дзе ўжо раней апавешчаны пробашч Станеўскі, каб падняць каменную пліту ў зачынены касцельны прыдзел, падрыхтаваў 12 чалавек. Паднялі пліту, адчынілі склеп, у якім ляжаў Панятоўскі, і паколькі сходаў не было, прыйшлося спускацца па драбіне. Унізе мы паставілі апячатаную труну і пакінулі акт на лаціне, падпісаны мітрапалітам, графам Сіверсам, мною і Станеўскім. Потым зноў паклалі на месца пліту і загадалі нікому не расказваць пра тое, што тут адбывалася"*.

Малую труну паставілі на вечка труны караля Станіслава Аўгуста, а не ў адлегласці ў адзін метр ад труны Панятоўскага, пра што піша Прус-Фашчэўскі. Каралеўскія парэшткі знаходзіліся тут 65 гадоў, ажно да 1922 г., калі 31 студзеня ў 15-20 у крыпту прыйшлі ксёндз-пралат Канстанты Будкевіч, Мікалай Пятроўскі, Эміль Вярбіцкі і аўтар гэтага артыкула.

Сцвярджэнне Прус-Фашчэўскага, што наша выправа па каралеўскія парэшткі адбылася ўначы, не мае падстаў. Кожны, хто арыентуецца ў савецкіх парадках, пэўна прызнае, што падобны начны план дзеянняў быў бы асуджаны на правал. Таму мы выбралі нядзелю, час непасрэдна пасля набажэнства, калі знаходжанне людзей на заднім падворку касцёла ні ў каго не выклікае падазрэнняў.

Гэтую справу мы рабілі па сваёй ініцыятыве, сваімі рукамі і на сваю рызыку без папярэдняга ўзгаднення або дазволу старшыні польскай рээвакуацыйнай дэлегацыі, якім у той час быў міністр Антоні Альшэўскі, а не прафесар Мар'ян Лялевіч, як сцвярджае Прус-Фашчэўскі. Прафесар Лялевіч вельмі шмат зрабіў у рээвакуацыйнай справе ў часы, якія папярэднічалі падпісанню Рыжскай мірнай дамовы, але не быў старшынём рээвакуацыйнай камісіі ў Маскве.

Дасканалае веданне савецкіх парадкаў, заснаванае на вопыце, здабытым яшчэ ў даваенныя часы (да Першай сусветнай вайны - *Л. Л.)* праз шматгадовыя зносіны з элітай прагрэсіўнай расійскай інтэлігенцыі, цвёрда пераканала нас, што вяртанне нашых гістарычных рэчаў сустрэне рашучае супраціўленне савецкай улады.

Таму, на нашу думку, адзіным выйсцем было вывезці гэтыя рэчы патаемна ад улады. Таму, атрымаўшы папярэднюю згоду ксяндза Будкевіча, мы на машыне прыехалі ў касцельны двор і спыніліся каля ўвахода ў жытло

[1] 1834 г. Дело № 34. - О доставленном в оный железном ящике из Варшавы со смертными останками Ст. Лещинского; 1885 г. Дело № 20. - О собрании сведений о ковчеге с остатками костей польского короля Ст. Лещинского.

[2] Адам Станіслаў Красінскі (1810-1891), каталіцкі дзяяч, філолаг, былы прафесар Пецярбургскай каталіцкай акадэміі. З 1858 г.- віленскі біскуп. У чэрвені 1863 г. высланы М. Мураўёвым у Вятку на 20 гадоў. У 1883 г., дзякуючы заступніцтву Ватыкана, вызвалены з-пад ссылкі без права вяртацца ў Вільню. Абраў месцам жыхарства Кракаў. - *Л. Л.*




ксяндза-пралата. Адтуль, праз пакляштарны калідор мы прайшлі ў крыпту, уваход у якую быў з двара. Ксёндз Будкевіч ужо чакаў нас у крыпце. Першае ўражанне было жудаснае. Там быў страшэнны беспарадак, пыл, павуцінне і г. д. Па словах ксяндза-пралата, у крыпту даўно ніхто не зазіраў. У куце крыпты меліся часткі былой металічнай труны караля Станіслава Аўгуста. У цэнтры стаяла каралеўская дубовая труна, на веку якой стаяла труна з парэшткамі Ст. Ляшчынскага. Дарэмна мы доўга шукалі дакумент на лаціне, згаданы біскупам Красінскім. На жаль, нашы пошукі былі беспаспяховымі. Час ляцеў хутка, і разважлівасць загадвала нам спяшацца. Таму мы агледзелі крыпту і па магчымасці навялі ў ёй парадак, а потым той да дарогай вярнуліся ў кватэру ксяндза Будкевіча, куды праз хвілю прыйшоў і сам ксёндз-пралат. Пад ксяндзоўскім убраннем ён нёс малую труну з парэшткамі Станіслава Ляшчынскага.

Здагадка Прус-Фашчэўскага, што труну з крыпты перанёс Мікалай Пятроўскі, *"схаваўшы яе пад вялікім плашчом"*, памылковая, Пятроўскі быў апрануты ў зімовае паліто, бо ў студзені ў Пецярбургу стаялі моцныя маразы. У кватэры пралата мы запакавалі малую труну ў шэрую паперу і на аўтамабілі вярнуліся ў памяшканне, дзе жылі ўтрох падчас знаходжання ў Пецярбургу.

Назаўтра мы склалі падрабязны пратакол, які падпісалі ўсе чатыры ўдзельнікі выправы. Гэты пратакол быў цалкам надрукаваны ў "Варшаўскім ганцы" № 220 ад 11 верасня 1938 г. і ў "Слове" № 220 ад 13 жніўня 1938 г. Праз два тыдні М. Пятроўскі выехаў у Польшчу і забраў з сабой труну.

Не буду пісаць пра далейшы лёс каралеўскіх парэштак на тэрыторыі Польшчы, адзначу толькі, што пасмяротная перагрынацыя Станіслава Ляшчынскага, на жаль, не закончылася. У Вавель, як вядома, труна патрапіла толькі ў 1929 г. і на працягу сямі гадоў каралеўская парэшткі знаходзілі часовы спачынак у шафах некалькіх сталічных установаў, што дало слушную падставу Станіславу Васілеўскаму напісаць фельетон "Кароль у шафе". [… ] Галоўным ініцыятарам вывазу з Пецярбурга каралеўскіх парэштак быў с. п. Пятроўскі, але адначасова для справядлівасці трэба падкрэсліць і не меншую ролю ў гэтай справе с. п. ксяндза Будкевіча. [… ]

*Ks. Bronislaw Ussas. Posmiertnie peregrynacje krola Stanislawa Leszczynskiego // Slowo. 1938. № 231.*

**Акт**

*Учынена ў Петраградзе 21 студзеня 1922 г. у 3-30 па поўдні па Петраградскім часе.*

*Мы, ніжэй падпісаныя:*

*- пралат Яго Святасць кс. Канстанты Будкевіч, дэкан петраградскі, пробашч касцёла св. Кацярыны,*

*- ксёндз-прафесар Браніслаў Усас,*

*- шэф Петраградскай экспазітуры польскай дэлегацыі ў змешаных рээвакуацыйнай і спецыяльнай камісіі ў Маскве Мікалай Пятроўскі, кіраўнік музейнага аддзела спецыяльнай камісіі польскай дэлегацыі ў Маскве*

*- Эміль Вярбіцкі, эксперт гэтай жа дэлегацыі,*

*Усе разам увайшлі ў крыпту караля Станіслава Аўгуста пры касцёле св. Кацярыны, Неўскі, 32, з мэтай вывучэння стану магілы і каралеўскіх парэштак і труны, у якой месяцца парэшткі караля Станіслава Ляшчынкага.*

*Магіла караля Станіслава Аўгуста знаходзілася ў наступным выглядзе:*

*1) пасярэдзіне крыпты на каменнай падлозе, без пастамента, стаіць драўляная, моцна пашкоджаная труна караля Станіслава Аўгуста, пакрытая срэбнай парчой з польскімі арламі, каралеўскімі вензелямі і гербам "Цёлак". На вечку труны знаходзілася малая металічная, моцна заржаўленая труна з парэшткамі караля Станіслава Ляшчынскага. У куце крыпты няладна звалены астаткі былой металічнай труны, якая складаецца з 7 частак, побач стаялі дзве бляшанкі з цынкавага ліста, у якіх знаходзілася сэрца і вантробы караля Станіслава Аўгуста.*

*3) пасля зняцця малой труны, паднялі дошкі вечка труны караля Станіслава Аўгуста і, асвяціўшы яе, даследавалі парэшткі. Труп пакрывае збуцвелае адзенне кармазынавага колеру, моцна пазалочанае, у вельмі добрым стане без найменшых пашкоджанняў. На месцы чэрапа засталася белая гнілата, якую, пры адкрыцці парэштак, таксама заўважылі на месцы левай нагі.*

*4) пасля даследавання парэшкаў, труну зноў накрылі дошкамі і ачысцілі ад пылу.*

*5) малая труна караля Станіслава Ляшчынскага моцна заржавела, упрыгожванні пашкоджаныя. Намі было адчыненая вечка, у труне аказалася меншая бляшаная труна, у якой знаходзілася абабітая аксамітам скрынка, а ў ёй косткі (такое захаванне магілы і змешчаных у ёй трунаў варта растлумачыць вільготным станам склепа, які падчас разліву Нявы заліваецца грунтавымі водамі).*

*6) Малая труна Станіслава Ляшчынскага была вынесена з крыпты, апячатана пячаткамі польскай дэлегацыі і вывезана ў Маскву да польскай дэлегацыі, каб потым адаслаць яе ў Польшчу.*

*Подпісы ўдзельнікаў.*

Разважлівасць загадвала нам як мага хутчэй пакінуць касцёл, каб пазбегнуць сачэння шпіёнаў, якіх тут ніколі не бракавала. Пакуль што мы вырашылі ўзяць з сабой труну караля Станіслава Ляшчынскага. Праз месяц мы павінны былі забраць урну з сэрцам караля Станіслава Аўгуста, а праз некаторы час - скрыню з вантробамі, а на астатку, яго труну. Кс. Будкевіч аказаў поўную падтрымку нашым планам, і мы спадзяваліся, што ўсё адбудзецца па дэталёва распрацаваным плане. [… ]

На жаль, неўзабаве савецкія ўлады пачалі падрыхтоўку да правядзення вядомага працэсу над 14 петраградскімі ксяндзамі, эпілогам якога стаў расстрэл ксяндза-пралата Будкевіча. Яго трагічная смерць паклала канец нашым планам, бо з наступным пробашчам касцёла св. Кацярыны не магло быць і размовы пра вываз каралеўскіх парэштак. [… ]

*Ks. Bronislaw Ussas, Emil Werzbicki. Na marginesie sprowadzenia zwlok krola Stanislawa Augusta // Slowo. 1938. № 220.*

***Пераклад і каментаванне Леаніда Лаўрэша.***



№ 26 (78) 28 ЧЭРВЕНЯ 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Як урачы і пацыенты: Грынкевіч, Пацярайка, Рагуля, Стэльмах, Трусевіч*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-25 (53-77) за 2023 г.)*

**ГРЫНКЕВІЧ Мікалай** (5) - памерла ўжо некалькі нашых перакладчыкаў па праекце "Пра школу", але калі Расціслаў Палчанінаў (Polchaninov, Polchaninoff) - ва ўзросце 103 гадоў (1919-2022), Ігар Андрушкевіч Andruskiewitsch - 94 гадоў (1927-2021), а Фёдару Клімчуку ў момант смерці было 83 гады (1935-2018), то Серж Мінскевіч памёр ва ўзросце 53 гадоў (1969-2022).

Нашаму перакладчыку "Пра школу" на галандскую, французскую і (дапаможна) англійскую мовы Басу Марэлю цяпер 93 гады, і ён 22.06.2023 г. адказаў нам у сваім звычайным пазітыўна-аптымістычным стылі, што сведчыць пра тое, што ён трымаецца добра, не забываючыся пра галоўнае.

*"Yo podria dudar un poco acerca de las quejas de los empleados y de los sacerdotes, pensando que "un cuervo no le saca los ojos a otro cuervo" y posiblemente son un poco exageradas, pero yo no podia permanecer indiferente frente a las quejas de ninos indefensos, sobre los cuales el nuevo obispo mostraba el poder de su autoridad. Entre parentesis, a mi me visitaba frecuentemente un tal Grinkevich, quien habia terminado el seminario superior y luego habia sido enviado a America, en calidad de salmista, como castigo por su conducta de ebriedad. ?l relataba cosas indignantes sobre situaciones en la escuela y sus palabras confirmaban plenamente las quejas de los desdichados ninos. Yo le pedi que expusiera por escrito cuanto el me contaba acerca de los escandalos escolares. Grinkevich no se nego a cumplir mi pedido y escribio la siguiente nota, que cito textualmente, porque ella*



…изучать разные религии, не значит предавать собственную веру. Она может, наоборот, крепиться, когда мы видим, как искали истину другие люди и что это им дало. Знание дает понимание, а понимание – терпимость к людям, у которых другие взгляды.

Джеффери Парриндер - историк

3

**Вынік руплівай працы.**

Аляксандр Патапаў-вядомы на Рагачоўшчыне краязнаўца (н.у 1958 г.). Гісторыю сваіх родных мясцін ён даследуе ўжо не першае дзесяцігоддзе, не шкадуючы ўласнага часу і грошай. Ён-часты госць у розных архівах (Магілёва, Гомеля, іншых гарадоў). Тэмы яго даследаванняў даволі разнастайныя, але рэлігійнае жыццё Рагачоўшчыны даследчыка цікавіць у першую чаргу. Вынікам працы ў гэтым напрамку стала з'яўленне яго кнігі "Вытокі. Станаўленне рэлігіёзных абшчын на Рагачоўшчыне" (Рагачоў, 2008), якая стала першай сур'ёзнай спробай сабраць і абагуліць архіўныя матэрыялы на гэтую тэму.

Краязнаўца працягвае сваю карпатлівую працу ў архівах. І вось-падрыхтавана да друку кніга. Яна стала працягам вышэй згаданага выдання. Аўтар уключыў у яе матэрыялы, якія ўжо друкаваліся (біяграфічныя звесткі пра свяціцеля Георгія Каніскага, "Жыццё прападобнай Манефы Гомельскай", інш) і якія яшчэ толькі чакалі свайго часу, каб стаць здабыткам для шырокага колу чытачоў (біяграфічныя звесткі пра праваслаўных святароў і царкоўных служкаў Рагачоўшчыны, інш.). Новая кніга А. Патапава абавязкова выклікае інтарэс у тых, хто цікавіцца гісторыяй свайго роднага краю. Пачынаючым краязнаўцам яна стане арыенцірам для новых архіўных пошукаў, будзе яна і каштоўным дапаможнікам для ўжо вопытных гісторыкаў.

Мікалай Шуканаў, супрацоўнік жлобінскай райгазеты "Новы дзень", краязнаўца.



***Author's autograph and foreword by M. Shukanau - Vytoki-2 ("Origins: formation of Orthodoxy and other religious communities in the Rogachev region" by Aliaksandr Patapau (Ragachou) - includes the first article about Rev, Nikolai Grinkevich***





*caracteriza en forma excelente las reglas impuestas por Vladimiro. [trans. into Spanish by Igor Andruskiewitsch, Buenos Aires]*

*DE LA ESCUELA*

*En la escuela estudian 23 chicos. Estan repartidos en 3 grados. Las aulas se usan tambien como salas de preparacion para clases. No existe ningun cuarto para recreacion. Todas las aulas (al igual que los dormitorios) se encuentran en el subsuelo. La iluminacion en dos de ellas es tan escasa que en medio de las mismas es imposible distinguir letras impresas. No existe ventilacion alguna. Humedad y hedor. La segunda clase y el comedor se hallan en la misma habitacion.*

*Los chicos de ocho anos estan sujetos a las mismas reglas y llevan el mismo estilo de vida como los que tienen 15 anos. La cantidad de las clases es la siguiente: las clases en las aulas con profesores - 3,5 h (desde las 13:30 hasta las 17:00); la preparacion para las clases - 3 h (08:00 - 11:00); los cantos - 2 h (11:00 - 12:00 y 17:00 - 18:00); oficio religioso - 2 h (18:30 - 19:30). Los sabados y los dias festivos el servicio religioso dura hasta 6 horas al dia. A los chicos les obligan llevar pelo largo, lo que ha resultado en una abundancia de piojos...*

*El obispo se apropio del dinero de los chicos que llegaron aqui con el. A todos ellos (12 personas) les habian entregado los viaticos, y de ese dinero les quedaban no menos de 200 dolares para cada uno. Algunos de los chicos que llegaron ya han sido enviados a Alaska, y a ninguno de ellos le han dado dinero aun para comprar ropa cualquiera, a pesar de que obviamente sufren pobreza". [trans. into Spanish by Anatol Prasalovich, Mogilev]*

*(Doctor Russel sobre Nikolai Grinkevich / trad. del ruso de Igor Andruskiewitsch // Веснік БІТ. 2014. 15 чэрв. № 33; Grinkevich, Nikolai. De la escuela / trad. del ruso de Anatoli Prasalovich // Веснік БІТ. 2014. 5 сак. № 13.)*

**Літ.:**

*8439 Сімакоў А. Ён дбаў пра адукацыю дзяцей індзейцаў: айцец Мікалай Грынкевіч у чатырох светах // Патапаў А. Ф. Вытокі: станаўленне праваслаўя і іншых рэлігійных абшчын на Рагачоўшчыне. Кн. 2. Рагачоў, 2009. С. 143-149.*

**ПАЦЯРАЙКА Канстанцін** - нарадзіўся ў Бярозе, жыццё было звязанае з Заслаўем, а затым Менскам; яму былі адпушчаны толькі няпоўныя чатыры дзясяткі гадоў - 18.05.1962 - 3.10.2000; пахаваны ў Заслаўі, дзе ў дзяцінстве пачыналася яго "індзейская гісторыя". 13.02.1988 г. у Менску, дома ў Алега Жылінскага прысутнічалі трое яго сяброў і калег - Канстанцін, Сяргей Ягорачкін і Андрэй Грыдзін; чацвёра запоўнілі анкеты, з якімі аўтар БСІ вярнуўся ў Гомель.

**АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ ГРУПА БЕЛАРУСКАГА ІНДЗЕЯНІСЦКАГА ТАВАРЫСТА**
**Падгрупа забеспячэння індывідуальнай дзейнасці**

**Анкета**
**Кароткія звесткі пра члена АГ БІТ**

1 ПРОЗВІШЧА Потеряйко

2 ІМЯ Константин

3 ІМЯ ПА БАЦЬКУ Эдуардович

4 ДАТА НАРАДЖЭННЯ (ДЗЕНЬ, МЕСЯЦ, ГОД) 18 мая 1962 г.

5 МЕСЦА НАРАДЖЭННЯ Брестская обл. г. Береза

6 НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЬ Белорус

7 ІНДЗЕЯНІСЦКАЕ ІМЯ (НА ІНДЗЕЙСКАЙ МОВЕ (ЯКАЯ) І Ў ПЕРАКЛАДЗЕ) Отважная Птица

8 ПАРАДНЁНАЕ ПЛЕМЯ шеванезы (шауни)

9 ДАТА ЎСТУПЛЕННЯ Ў АГ БІТ 13 февраля 1988 г.

10 ПАДГРУПА группа индеанистики

11 АБАВЯЗКІ Стихи, рассказы, выкройки, шитье

ІНДЗЕЯНІСЦКІЯ ЦІКАЎНАСЦІ

12 ГОД УЗНІКНЕННЯ 1973 г. (3 класс)

13 ІНДЗЕЙСКІЯ ГРУПЫ шауни, чейены, сиу

14 РЭГІЁНЫ (КРАІНЫ) США, Канада. Перу

15 ТЭМЫ Обычаи, жизненный уклад и т.д.

16 НЕІНДЗЕЯНІСЦКІЯ ЦІКАЎНАСЦІ (ПЕРАЛІК НАЙБОЛЬШ ВАЖНЫХ) Игра на гитаре, туризм

17 АДУКАЦЫЯ І ПРАФЕСІІ (УКАЗАЦЬ НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ) Средне-техн. обр. Заславская СШ № 1, СПТУ-114, курсы вод., вод. 2 кл. электромеханик 3 р.

18 ХАТНІ АДРАС І ТЭЛЕФОН (ІНШЫЯ, ПРЫ НАЯЎНАСЦІ) Минск 220047 […]

19 МЕСЦА РАБОТЫ (ПОЎНАЯ НАЗВА АРГА-

АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ ГРУПА БЕЛАРУСКАГА ІНДЗЕЯНІСЦКАГА ТАВАРЫСТВА
Падгрупа забеспячэння Індывідуальнай дзейнасцІ
Анкета
КароткІя звесткІ пра члена АГ БІТ

I прозвІшча
2 Імя
3 Імя па бацьку
4 дата нараджэння (дзень,месяц,год)
5 месца нараджэння
6 нацыянальнасць
7 ІндзеянІсцкае Імя (на Індзейскай мове (якая) І ў перакладзе)
8 парадненае племя
9 дата ўступлення ў АГ БІТ
I0 падгрупа
II абавязкІ
ІндзеянІсцкІя цІкаўнасцІ
I2 год узнІкнення
I3 ІндзейскІя групы
I4 рэгІены(краІны)
I5 тэмы
I6 неІндзеянІсцкІя цІкаўнасцІ (пералІк найбольш важных)
I7 адукацыя І прафесІІ (указаць навучальныя ўстановы)
I8 хатнІ адрас І тэлефон (Іншыя, пры наяўнасцІ)
I9 месца работы (поўная назва арганІзацыІ, адрас)І службовы тэлефон
20 пасада

* запаўняецца на беларускай або рускай мове
* пазІцыя І даецца на беларускай І рускай мовах, адзначаецца нацІск

дата подпІс

***Анкета "Кароткія звесткі пра члена АГ БІТ".***
***Society's personal form***

НІЗАЦЫІ, АДРАС) І СЛУЖБОВЫ ТЭЛЕФОН РМУ уч. № 5

20 ПАСАДА электромонтажник по обсл. лифтов [ДАДАЎ АД СЯБЕ] беспарт.

*запаўняецца на беларускай або рускай мове

*пазіцыя 1 даецца на беларускай і рускай мовах, адзначаецца націск (гэта была першая версія анкеты членаў БІТ, далей выкарыстоўвалася расшыраная).

① Потерайко Константин Эдуардович
18 мая 1962г.
Брестская обл. г. Берёза
белорус
Отважная Птица
шаванезы (шауни)
13 февраля 1988
группа индеанистов
Стихи, рассказы, вырезки, мифы.
1973г (3 класс)
США, Канада, Перу.
шауни, чейены, сиу
Обычаи, жизненный уклад и т.д.
Игра на гитаре, туризм
Средне-техн. обр. Заславская СШ №1
СПТУ-114, курсы вод. водитель 2кл.
электромеханик 3р.
Минск 220047 [redacted]
РМУ уч. №5. электромонтажник
по обсл. лифтов
беспарт.

***Анкета К. Пацярайкі пры ўступленні ў БІТ 1988-02-13***

Вершы пра індзейцаў пісалі (або ўстаўлялі асобныя радкі ў паэтычны творы) сотні вядомых нам па імёнах беларусаў, ураджэнцаў і жыхароў Беларусі. У паэме "Брацкая ГЭС" беларуса па адным з бацькоў, як і ў выпадку з Косцем Пацярайкам, - Я. Еўтушэнкі - ёсць такія радкі:

*Когда*
*в тупом благоденствии*
*мозолит глаза*
*прохиндейство,*
*мне хочется*
*в заросли девственные,*
*куда-нибудь,*
*хоть к индейцам.*
*Но нету*
*девственных зарослей.*
*Индейцы*
*давно повымерли.*
*И сердце*
*тоской терзается […].*

З самым першым лістом да нас (б/д, 1988-06-23 па шт.) Адважная Птушка даслаў аркуш са сваімі вершамі ("Ночь над землею, как ворон, черна...", "Смерть или ветер закрыли глаза..." и "Из океана вышла ты..."). Чытаючы па скане, можна параўнаць яго стылістыку з тым, што знаходзім у вершы юнай гамяльчанкі на рускай мове "Рыцары і мы", які змясціла ў снежні 1987 г. "Гомельская праўда":

*Мы в детстве рассказы любили*
*О рыцарях, древних героях,*
*Чьи подвиги словно манили*
*Участвовать в смелых походах.*

*Бежали смотреть кинофильмы*
*О мужестве гордых индейцев,*
*Готовых отдать свои жизни*
*В борьбе против зла европейцев.*

*Мы выросли, но не забыли,*
*Как в битвах вы храбро сражались,*
*Дружили, страдали, любили.*
*И вновь вами все восхищались.*

*Теперь говорят очень часто,*
*Что рыцарей нет на планете,*
*Героя ты ищешь - напрасно,*
*Таких не бывает на свете.*

*А вы не теряйтесь, найдете,*
*Идти далеко вам не надо,*
*При встрече вы сразу поймете:*
*Порою достаточно взгляда.*

У вершы ўсё добра, а вось у жыцці - не так паэтычна, і донкіхоцтва не заўсёды заахвочваецца. Паспрабаваўшы выйсці праз рэдакцыю "Гомельскай праўды" на аўтара, мы атрымалі вымову - не за захапленне "донкіхоцтвам", а за доступ да "асабовых дадзеных".

Усяго маем 6 лістоў ад Косці Птушкі, уключаючы той, які суправаджаў яго бандэроль, у якой ён вяртаў часопіс "Прапор" з артыкулам Ю. Стаднічэнкі пра Сат-Ока.

У лісце (б/д, 6.06.1992 па шт.), напісаным ад яго імя рукой іншага чалавека, было пра загадкавую гісторыю, як не дайшлі да нас лісты з водгукамі, якія даслалі ў рэдакцыю тэлебачання пасля сюжэта пра беларускіх індзеяністаў - з яго ўдзелам. У запісе передачы "Крок" у 1991 г. удзельнічаў і яго сын 1983 г.н., які пабываў таксама па двух паўваў *"у Карэліі"*. (Мы пісалі 27.9.1991 г. у Чашнікі ўдаве нашага члена С. Макарэўскага, які, маючы





Ночь над землёю, как ворон, черна.
Тайной окутала всё тишина.
Возле костра, что как жизнь догорал,
Злою судьбой, я сражённый лежал.
Смерть не закрыла ещё мне глаза...
Тихо скатилась в морщину слеза.
Ветер обнял, встрепенул прядь волос;
В годы далёкие память унёс...
Там где-то в прошлом, в далёкой дали,
Воины к солнцу тропою ушли.
В битве кровавой последней своей,
Жён защитили и малых детей.
Но не забудут тех славных времён!
Бой у прозрачной реки Литл Биг-Хорн.
И не забудут печальные дни,
Кровь когда лилась ручьём в Вундед-Ни
Был я с народом в жестокой борьбе,
В гуще событий на жарком коне!

*Verses enclosed in the letter from Kanstantsin Patsiaraika sent from Minsk (postmark) 1988-06-23 p. 1 of 2*

Hau, Коля!
Получил твоё письмо, но немного задержался с ответом. Ну о наших новостях ты уже знаешь. Пока больше ничего существенного не произошло. Попробую ответить на твои вопросы.
* Фотографии можешь использовать по своему усмотрению
* К Большому Орлу поехала в гости „Чайка" из Ленинграда. Ещё в штаты поехал „Бобёр".
* Связь держи через меня. Тем более, я всю почту перевёл на а/я, т.к из простого почтового ящика иногда почта пропадает в связи с подорожанием газет и журналов

*Letter from Kanstantsin Patsiaraika with Aleg Zhilinski (б/д, 1991-08-27 на штэмп.) p. 1 of 2*

Был я свидетелем всех грязных дел.
И не жалел для врагов острых стрел!

Смерть или ветер закрыли глаза.
Пеплом покрылися угли костра.
Свет над равниной великой всходил,
Я по тропе на восток уходил...
1987 г.

Из океана вышла ты,
Чтоб жизнь дать сыновьям индейцам.
Но мало за морем земли
Проклятым белым европейцам!
Они пришли сюда, чтоб взять
Леса, поля, равнины, горы...
Чтобы индейцев истреблять
И захватить земли просторы.
Ведь ты жила лишь для индейцев,
Ведь ты носила их следы.
Зачем же топчут европейцы
Землю без зла, землю без лжи?!
Сомкнитесь воды океана,
Чтобы исчезли под водой.
Следы бесчестья и обмана!
Сомкнитесь воды над землёй?!
1979 г.

*Вершы Канстанціна Пацярайкі (дадатак да л. б/д, штэмп. 1988-06-23) с.2 з 2*

*. „Хранители" – так называется общесоюзная танцевальная группа которая поёт и танцует индейск. песни и танцы. В неё входят индеанисты из разных городов. В т. числе и из Минска.
А „Byelorussian State" так называют иногда нас индеанисты да и мы сами. Просто на Н-стоне иностранцам объясняли: Ленинград – „russian", „Москва" – „russian", Минск – ? (Они такого города не слышали) Ну и объясняли „byelorussian" с тех пор и пошло. Ну а мы уже добавили штат. Нас иногда подкалывают: „Первый белорусский или 51 американский"? Вот так и пошло. Ну вот вроде и всё. Пиши. Жду новости.
До свидания. Птица, Танто.

*Ліст ад К. Пацярайкі (Адважнай Птушкі) (б/д, 1991-08-27 на штэмп.) с.2 з 2*







***Расійскія, беларускія і ўкраінскія індзеяністы на фестывалі Indian Spirit у Менску (з выступленнямі наваха У. Язі - William Yazzie), кастрычнік 1996 г. (сядзяць злева направа: К. Пацярайка, А. Мяцеліца і С. Шапран (Беларусь)). Kostsia "Bird" Patsiaraika (sitting left) in October 1996, Minsk***

турысцкі імпэт, мог бы, відаць, як і С. Мінскевіч, у будучым пабываць на паўваў: *"У "Знамени юности" 21.9 і ў праграме "Крок" учора была прадстаўлена індзеяністыка як маладзёжны рух"*. Меўся на ўвазе артыкул старшага рэдактара праграмы "Крок" Алены Лукашэвіч.) Сын не пераняў цікавасць да індзейцаў, але ўсё ж успамінае пра тыя гады з адпаведным пачуццём. Застаецца больш дэталёва ўзнавіць, як менавіта віталіся Канстанцін Пацярайка і яго блізкія з індзейцамі - з Уільямам Язі ў Менску ў 1996 г. і на паўваў у Расіі.

У Канстанціна быў рак (гл. пра беларуса-анколага ў Канадзе, якому не была чужая праблематыка карэнных народаў, у арт. "Рагуля").

**Літ.:**

*355 Лукашевич Е. Великий и Таинственный... некто / фото С. Плыткевича // Знамя юности. 1991. 21 сент. (сведкам "поўнага яднання" індзеяністаў і індзейскага госця на паўваў была А. Лукашэвіч з БТ; на фота С. Плыткевіча з паўваў - і жонка аднаго з беларускіх індзеяністаў - разам з хлопчыкам на фоне ўваходу ў ціпі).*

*2613 Василевицкая М. Рыцари и мы // Гомельская праўда. 1987. 5 дек.*

*12457 Евтушенко Е. А. Братская ГЭС: поэма // Юность. 1965. № 4. С. 26-67.*

*2496 Евтушенко Е. Братская ГЭС: поэма // Евтушенко Е. Поэт в России - больше, чем поэт. М., 1973. С. 10-167.*

*1240 Дубавец С. "Бо, кожны з вас - паэт" // Знамя юности. 1990. 17 янв. ("Любое адраджэнне - ці то ў Кітаі, ці то ў Афрыцы, ці ў амерыканскіх індзейцаў - заўсёды выклікае да жыцця сотні паэтаў", але нам здаецца, што кожны індзеец, не "сапсаваны" цывілізацыяй, - паэт, а шляхі адраджэння, як гэта адбылося і ў беларусаў у канцы 20 ст., часта вядуць да такога сінтэзу сваёй і заходняй культур, "масавай культуры", фаварытызму і захопу СМІ псеўдаэлітамі, "культурнага імперыялізму", які забівае сапраўдную паэзію: атрымліваецца "комікс", як у "Бярозцы", якая, "не адыходзячы ад дзяржавы", нават здолела перайсці на тарашкевіцу - тэхнічны, а не духоўны прарыў, - але ледзь здолела выжыць сама.)*

**РАГУЛЯ Барыс** - у сваёй кнізе "Супраць цячэння" (на англійскай мове, 2005) апісаў кароткі побыт у Паўночна-Заходніх Тэрыторыях (Northwest Territories): с. 136-141, дзе сустракаем фразу "Inuit and other Aboriginal peoples". Пра гэты эпізод нам стала вядома з нататак Сакрата Яновіча, які з'ездзіў у Канаду. З В. Кіпелем мы абмяркоўвалі гэты пункт - і можна было пераблытаць розных беларускіх медыкаў. 12-ым у серыі пытанняў да





яго было: *"Якія былі акалічнасці выратавання беларускім эмігрантам эскімоскага дзіцяці, пра што піша ў канадскіх нататках С. Яновіч?"* (ІС БІТ 1989.12.26). Гаворка ішла менавіта пра Рагулю, але ў яго мемуарах такога выпадку мы не знайшлі.

Можа скласціся ўражанне, што Рагуля, які выратаваў эскімоскае дзіця, знаходзіўся ў чыста эскімоскім раёне, куды даляцеў на самалёце над раёнамі індзейскімі. Але ў вёсцы Аклавік, па дадзеных "Population and dwelling counts, for Canada, provinces and territories, and census subdivisions (municipalities), 2016 and 2011 censuses - 100% data (Northwest Territories)". *"Statistics Canada"*, 8.02.2017, *"Retrieved 1 February 2022"*, жылі, акрамя эскімосаў (інуітаў), якіх 53,4 прац., 33,9 індзейцаў (First Nations), і 4,2% метысаў, некарэнных жа (non-Aboriginal) было 8,5%. Па дадзеных перапісу 2006 г. (Canada Census - Aboriginal profile) там было 616 чалавекі, 93,2 % карэнныя, з іх 59,8 % - інуіты; 31,6 % - індзейцы, 1,7 % метысы, 6,8 % - некарэнныя.

Хаця такая прапорцыя эскімосаў і індзейцаў і *"unlike other communities"* - непадобная на іншыя грамады рэгіёна. Індзейцы ў Аклавіку - паўночныя атапаскі Gwich'in - гвічын або гуіч'ін, больш вядомыя па ранейшым варыянце назвы - кучын, кучыны.

Накіраваны Рагуля быў у гэтае аддаленае месца *"ўрадам"*. *"Inuvik General arranged for me to spend two days working in the Aklavik clinic"*. Вопыт у Інувіку падаём са скарачэннямі з аднаго месца ў мемуарах "Against the Current: The Memoirs of Boris Ragula". (У яшчэ адным месцы кнігі (с. 119) ён у пераліку калег у шпіталі адзначае "East Indian" - гэта ўскосная прысутнасць індзейцаў, хаця і са знакам мінус (у адносінах да сустрэтых у Канадзе і іншых краінах Амерыкі індыйцаў пазначаюць "East" - гэта важна, каб не зблытаць чалавека з індзейцам, - у той час як у Канадзе цяперашняя найбольш палітканэктная назва - First Nations, а ў Гаяне, дзе індыйцаў больш, чым індзейцаў (каля 43 супраць 9 працэнтаў), апошніх называюць Amerindians)).

*"Я таксама часта знаходзіў час для абмеркавання палітычных і сацыяльных пытанняў. Я адпраўляў у дзяржаўныя ўстановы справаздачы, лісты і артыкулы, у якіх выказваў свае меркаванні і назіранні па шырокім спектры тэм, у тым ліку аб Згуртаванні Беларусаў Канады, бікультуралізме і двухмоўі, а таксама аб той важнай ролі, якую можа адыграць сямейны лекар ва ўплыве на сацыяльныя змены. У 1970 г. я лічыў сябе "сярэднестатыстычным канадцам", зацікаўленым у будучыні гэтай перспектыўнай краіны. Магчыма, з пачуцця прыгоды, або з цікаўнасці, або з таго і іншага, я прапанаваў свае паслугі федэральнаму ўраду для працы ў Паўночна-Заходніх Тэрыторыях. Адказ быў хуткі: дзяржаўныя органы накіравалі мяне ў Інувік на жнівень. Каб дабрацца да горада, які быў заснаваны ў 1961 г. у рамках "бачання поўначы" прэм'ер-міністрам Джонам Дыфенбэйкерам, я прыляцеў у Эдмантан і перасеў ва ўрадавы самалёт, які ўзляцеў над*

Alberta Indian Health Care Commission
# 230, First Edmonton Place
10665 Jasper Avenue
Edmonton, Alberta, Canada
T5J 3S9

July 21, 1995

Dear Chairperson:

We continue to concern about the health of the Lubicon Lake Indian people.

Our Society become aware of the Lubicon situation three years ago and some details of its "complexity" have been published in the Belarusian press. Recently we received some reports on a new jeopardy, the Unocal plant which removes hydrogen sulphide from natural gas near Little Buffalo; some sources say this product can kill people within seconds after a possible leak. What does your Commission think of this "minimal risk"?

Maybe the Unocal's hi-tech ensures the perfect safety of the plant, but we have been learned to doubt after the Chernobyl disaster. We live in a "periodical control" area (Gomel; my native village in the south of the Gomel region is on the line of "full relocation") and our medicine uses this "opportunity" to develop.

We would be grateful for information on your Commission's activities and especially your efforts to improve services delivered to the Lubicons.

Your experience is important to us and we hope it is possible to organize some exchanges between our medical workers.

Sincerely,

Ales Simakou
Executive Secretary
Belarusian - American Indian Society
PO Box 114
Gomel 246047
Belarus

***Letter to Alberta Indian Health Care Commission (Edmonton, Alberta) 1995-07-21***

*шасцідзясятай паралеллю. Пышныя сельгасугоддзі зніклі і былі замененыя ландшафтам рэдкай расліннасці і россыпам невялікіх паселішчаў. Панарама пада мной - захапляльная* [breathtaking] *дэльта ракі Макензі, гарады Хэй-Рывер, Елаўнайф і Норман-Уэлс - аказала глыбокае ўздзеянне* [indelible impact] *на мае адчуванні* [senses].

*У гэты час вялікую цікавасць на Поўначы выклікалі адкрыцці вялікіх запасаў нафты на Алясцы і ў канадскай Арктыцы. Гэтая цікавасць, у сваю чаргу, выклікала новую занепакоенасць сацыяльнымі і эканамічнымі праблемамі паўночнага абарыгеннага насельніцтва"*. Рагуля, які *"прачытаў шмат артыкулаў, якія абвінавачвалі федэральны ўрад у грэбаванні здароўем і дабрабытам гэтых людзей"*, піша далей, што яго кароткае знаходжанне ў Інувіку сфарміравала цалкам іншы пункт гледжання. Цікава тое, што з той паездкай звязаны буйны канадскі палітычны дзеяч Роланд Мічэнер [Michener], прадстаўнік Прагрэсіўна-кансерватыўнай партыі Канады, які тады быў генерал-губернатарам Канады, аж да такіх *"інтымных"* падрабязнасцей: "*У суправаджэнні яго целаахоўнікаў мы рушылі ў той свежы, ясны ранак Інувіка"*. Здымак з тым бегам трушком, які генерал-губернатар даслаў яму ў 1972 г., меў надпіс: *"Доктару Барысу Рагулі, з прывітаннем ад вашага сябра Роланда Мічэнера"* і, зразумела, адносіўся Рагулем да самых каштоўных у сваім архіве.

*"Інувікскі галоўны* [Inuvik General] *уладкаваў мяне два дні працаваць у клініцы Аклавік. Аклавік, размешчаны на заходнім беразе канала Піл у дэльце ракі Макензі, меў насельніцтва каля васьмі соцень чалавек. Большасць былі абарыгенамі, але я таксама сустрэў некалькі белых людзей, якія працавалі на электраўстаноўках, у гандлёвых пунктах, у аэрапорце, цэрквах і RCMP [паліцыя]. На маіх вачах хрыбты гор Рычард-*



AMERICAN INDIAN HEALTH CARE ASSOCIATION

January 10, 1991

[redacted]
Ourha, 211030
BSSR, USSR

Dear Mr. Zdorovenko:

Please find enclosed some materials that will help you correspond with other American Indian organizations that would have information on Indian traditional healthcare and modern Native professional medicine.

The NAES College 1305 East 24th, Minneapolis, Minnesota 55404 has a number of books that deal with native healing and health care. You might write to them to get a listing of those books available.

I certainly hope the materials sent will help you. If you have any further requests please feel free to contact our organization.

Sincerely,

Linda M. Azure
Program Analyst

245 East Sixth Street Suite 499 St. Paul, Minnesota 55101 (612) 293-0233 Fax (612) 293-9148

***Letter from Linda Azure, American Indian Health Care Association 1991-01-10 to an Orsha BAIS member***

The Native Press
Box 1919, Yellowknife, N.W.T.
Canada X1A 2P4

June 2, 1990
Gomel

Dear Mr. Editor:

We have received the original text of 'Dene Declaration - A Statement of Rights' and a copy of the Native Press from our Ontario Indian friends.

We are surprised to see so strong self-determination aspirations.

Of course, we are sympathizers of the Dene state within the Canadian federation. Our country was called the Northwestern Territory in the czarist times, but today we have our own name, Byelorussia, and we hope the name Northwest Territories is not eternal. We are not separatists, but supporters of the idea of a Fourth Worldist Byelorussia: a free people among free and brotherly Soviet peoples.

Now we only wanted to say: "Long live Dene-Byelorussian friendship!" and thank you and your readers who are ready to write to us.

Please help us to establish correspondence with your people, publishing our address in your newspaper. If possible.

Yours in solidarity,

Ales Simakou,
Byelorussian - American Indian Society

***Letter from Gomel, in the former North-Western Territory of the Russian Empire, to Native Press (a newspaper in Yellowknife, Northwest Territories, Canada) 1990-06-02***

сан, месца шматлікіх бітваў паміж варагуючымі карэннымі плямёнамі, дадавалі Аклавіку векавой прыгажосці [secular beauty]. Пункт сястрынскага догляду ў гэтай невялікай грамадзе быў добра абсталяваны. На першым паверсе я знайшоў агульную прыёмную, вялікі пакой з рэнтгенаўскім апаратам, памяшканнямі для апрацоўкі і захоўвання медыкаментаў і кабінамі для агляду. На другім паверсе быў яшчэ адзін аглядны пакой з абсталяваннем для правядзення малых аперацый, амбулаторыяй і чатырма бальнічнымі ложкамі. Наглядаючаму персаналу быў адведзены адзін ложак для акушэрства і адзін для заразных хвароб. Я таксама адзначыў ізалятары і дзве бальнічныя палаты, якія выкарыстоўваюцца для лячэння хворых на пнеўманію ці з праблемамі з сэрцам. Тут пацыенты могуць адчуваць сябе камфортна падчас лячэння, якое патрабуе кароткага знаходжання ў стацыянары. Калі я прыехаў у клініку Аклавіка, там была толькі адна пацыентка, якая аднаўлялася пасля родаў. Я сустрэўся з медсястрой паліклінікі, і яна акрэсліла для мяне свой распарадак дня, паказаўшы, як яна праводзіць ранішнюю практыку [clinics] і плануе хатнія выклікі пасля абеду. Мясцовае насельніцтва лічыла медпункт і паліклініку месцам грамадскіх сустрэч, і я быў сведкам таго, што многія жыхары звярталіся па параду ў пытаннях, не звязаных з медыцынскімі праблемамі. Мне было ясна, што медсёстры адыгрываюць важную ролю ў паўночных грамадах, звяртаючыся [reaching out] да мясцовых жыхароў і як да прафесіяналаў, і як да сяброў.

Падчас планавага выезду на дом я меў магчымасць наведаць дом састарэлых. Нягледзячы на тое, што вонкава будынак быў маркотным і непрыгожым, унутры было цёпла і прыемна. Была вялікая гасцёўня, абстаўленая мяккімі крэсламі і канапамі; бліскучая [sparkling], добра арганізаваная кухня; і дванаццаць спальняў, у кожнай з якіх ёсць ложак, крэсла або канапа, невялікі столік і шафа для захоўвання асабістых рэчаў. Падчас абыходу я сустрэў старога старацеля, які прыехаў з Англіі. Супрацоўнікі сказалі мне, што ён апошнія дваццаць пяць гадоў захоўваў свае чамаданы, бо верыў, што хутка вернецца на радзіму. Ён сядзеў, шчасліва пыхкаючы люлькай і марачы аб зялёнай Англіі.

Я выявіў, што ў Паўночна-Заходніх Тэрыторыях хатні выклік можа быць сапраўднай прыгодай. У суправаджэнні яшчэ аднаго доктара і медсястры я ляцеў на чатырохмясцовай "Сесне" ў пасёлак Паўлатук. Выгляд з паветра быў цудоўны - велізарны бязлесны від на азёры і рэкі. Я быў у захапленні ад прыгажосці гэтай дзікай мясцовасці, калі глядзеў уніз на раку Андэрсан з яе высокімі берагамі з аднаго боку і глыбокімі каньёнамі з другога. Пілот указаў на некалькі статкаў карыбу і зрэдку ласёў. Як толькі мы пераехалі раку Хортан, я ўбачыў Паўлатук. Падчас нашага спуску яркае сонечнае святло асвятляла зямлю ўнізе, і я адчуваў сябе так, нібы мяне вітаюць у эфірным свеце".

Далей Рагуля апісаў дэталі свайго знаходжання і *"культурныя адрозненні"* Паўлатука, у якім і па перапісе 2016 г. з 235 абарыгенаў усе былі інуітамі. У вёсцы Паўлатук (Paulatuk) было дзевяць панэльных дамоў катэджнага тыпу, царква і сціплы медпункт. Рагуля пры-





маў там пацыентаў, спрабаваў асэнсаваць інуіцкі светапогляд, лад жыцця.

*"Сістэма вераванняў інуітаў характарызавалася рэдкай чысцінёй, але я з трывогай назіраў прыкметы размывання іх сацыяльных і культурных структур. Сярод пажылых пацыентаў клінікі туберкулёз працягваў заставацца сур'ёзнай праблемай. Медыцынскія дакументы таксама паказалі, што венерычныя захворванні былі шырока распаўсюджаныя ў грамадзе. Некаторыя ўлады звязваюць гэта з прытокам часовых рабочых, бізнесменаў і падарожнікаў, якія эксплуатуюць абарыгенаў для ўласнага задавальнення* [for their own pleasure]. *Злоўжыванне алкаголем было яшчэ адной сур'ёзнай пагрозай - многія падлеткі і маладыя людзі, падобна, лічылі, што кожную бутэльку трэба апустошваць. Я спытаўся ў адной маладой пацыенткі, чаму яна ўжывае алкаголь, і яна адказала, што жыццё сумнае, а алкаголь - гэта часовае выратаванне* [escape]. *Пазней я зразумеў, што быў сведкам пачатку разбуральных змен, якія пасеялі хаос сярод інуітаў і іншых абарыгенаў. З кожным уварваннем нафтавай кампаніі ці іншага прадпрыемства па развіцці гэтыя людзі гублялі традыцыйныя землі, а гэта, у сваю чаргу, аслабляла іх мясцовую эканоміку, культурныя і грамадскія структуры. Тым не менш, нягледзячы на гэтыя праблемы, я заўсёды буду памятаць сваё кароткае знаходжанне на поўначы Канады як унікальную прыгоду"*.

Ён быў анколагам, які асвятляў праблематыку курэння. Дзякуючы цемнаватаму колеру скуры або схільнасці да загару карэнныя аляскінцы маглі сумнявацца ў еўрапейскім паходжанні гэтага ўраджэнца вёскі Турэц Карэліцкага раёна - такое адзначана прынамсі ў эскімосаў.

Жыў у Лондане (Антарыа), што спрыяла адносна частым сустрэчам з індзейцамі. Яго супрацоўніцтва з немцамі ў час вайны канадцы разумелі "шырока-гуманістычна", а сам Барыс не вельмі афішыраваў яго, у асноўным толькі шматзначна ставячы знак роўнасці паміж палітыкай нацыстаў і "Саветаў". Ці варты быў асаблівай увагі Рагуля ва ўмовах, калі значны працэнт насельніцтва Канады меў непасрэдныя або ўскосныя сямейныя адносіны да вымушанага "калабарацыянізму", а канадцы так і "не выдалі" ў Еўразію ўдзельніка знішчэння Хатыні У. Катрука - хаця і зрабілі крокі прыкладна ў гэтым кірунку. У цэлым жа краіны Еўразіі не праявілі асаблівай актыўнасці ў гэтым. І мы не думаем, што нашых індзейскіх карэспандэнтаў і адрасатаў вельмі ўразілі выпадкі Катрука, Паўлоўскага, якія мы згадвалі ў лістах.

Гл. таксама, што Барыс Рагуля напісаў пра жыццё сярод індзейцаў у Арызоне сям'і іншага ўрача-беларуса і яго земляка з *"вялікай Навагрinfluenceчыны"* - Лявона Трусевіча (арт." Трусевіч Нікалас").

**Літ.:**

*12455 Ragula B. Against the current: the memoirs of Boris Ragula as told to Dr Inge Sanmiya. Montreal, 2005.*

*7786 Рагуля Б. Беларускае студэнцтва на чужыне. Лёндан (Канада) - Нью-Ёрк, 1996.*

**СТЭЛЬМАХ Уладзіслаў** - суаўтар вядомай кнігі (і, магчыма, найважнейшы, хоць, здаецца, аўтары проста расстаўленыя па алфавіце): "Сцежкай слёз і надзей: кніга пра сучасных індзейцаў ЗША і Канады" (Стельмах В. Г., Тишков В. А., Чешко С. В. Тропою слез и надежд: книга о современных индейцах США и Канады. М.: Мысль, 1990. 316 с.; ахвочыя могуць звязацца з намі і атрымаць яе ў падарунак - мы купілі дзясяткі экзэмпляраў гэтай кнігі, якая трапіла ў вялікай колькасці ў нашу любімую кнігарню ў Гомелі "Думка" ("Мысль") і іншыя - мы "павялічвалі" тыраж многіх кніг папярэднімі заказамі).

Мы рабілі шматлікія запыты, каб выявіць беларусаў і асоб з каранямі ў Беларусі сярод расійскіх амерыканістаў (а таксама і сярод амерыканістаў іншых краін, у першую чаргу Польшчы, дзе або ў сувязі з якой такіх прагназавалася ледзь не найбольшая колькасць у свеце).

На У. Стэльмаха, як і некаторых іншых супрацоўнікаў Інстытута этнаграфіі ў Маскве з пэўнымі сувязямі з Беларуссю, указаў загадчык сектара народаў Амерыкі, а пазней дырэктар ІЭ і міністр па справах нацыянальнасцей В. Цішкоў. Супрацоўнікі ІЭ ў той час сустракаліся з многімі гасцямі з Амерыкі, у т.л. індзейцамі. На рабочым месцы Цішкова знаходзілася гара візітных картак, з адной



25. 3. 88

Уважаемый А. В. Симаков!

Мой ответ, вероятно, разочарует Вас. К сожалению, я не индеанист по специальности, и даже не этноамериканист, и в этом плане Вы обратились ко мне в общем-то не по адресу. Иное дело, что работая в Институте этнографии, я в период с 1981 по 1986 г. занимался положением индейского населения США. Плодом моих усилий стал ряд статей и разделов в книгах, как уже опубликованных, так и готовящихся к опубликованию в ближайшее время. Однако в целом моя работа над этой темой была завершена 2 года назад написанием большого, около 10 авторских листов раздела в книге "Коренное население Северной Америки в современном мире", которая увидит свет в 1990 г. Теперь же я переключился на иную проблематику, непосредственно связанную с моей специальностью — "история США 19 века".

Аналогичным образом вынужден ответить отказом и на Ваше любезное приглашение посетить Гомель. Дело в том, что по семейным обстоятельствам ни я, ни моя жена уже в течение последних 5 лет не покидаем Москву, даже отпуск проводя в ближнем Подмосковье.

Что же касается вопроса о моем отношении к Белоруссии, то здесь могу ответить следующее. Я - коренной, в третьем поколении москвич. Однако мой покойный дед, известный в прошлом агроном Павел Иванович Стельмах действительно был уроженцем Могилевской губернии. В Россию он переселился еще до революции и работал сперва в Ярославской, а потом в Московской областях.

И наконец, о Вашей просьбе назвать американских индеанистов или этноисториков - уроженцев Белоруссии. На данный момент мне такие не известны. Постараюсь

***Letter from Vladislav Stelmakh 1988-03-25 p. 1 of 2***







что-либо разузнать для Вас, однако полагаю, что это будет очень сложно. Дело в том, что иммиграционная статистика США по каким-то причинам не выделяла белорусов из числа приезжих русских. И насколько мне известно, данные о количестве белорусского населения в Соединенных Штатах всегда носят оценочный характер: как правило они рассчитываются исходя из общего соотношения русского и белорусского населения в России или СССР. Определить принадлежность к белорусскому народу по английской транслитерации фамилий, которые, вдобавок, могли быть и несколько "англизированы" применительно к американским нормам произношения, дело весьма непростое. Тем не менее, если мне что-то удастся сделать, немедленно поставлю Вас в известность.

С уважением и искренними пожеланиями успехов Вам и Вашему обществу

Владислав Геннадьевич Стельмах

***Ліст ад Уладзіслава Стэльмаха (Стельмах) 1988-03-25 с. 2 з 2***

з якіх - індыянкі Беатрыс Медысін - ён дазволіў перапісаць адрас.

Мы гаварылі з Уладзіславам у Інстытуце этнаграфіі і пісалі яму 13.03.1988 і 08.04.1988 - да і пасля яго адзінага ліста нам. Мы выказвалі спадзяванне на атрыманне звестак і пасярэдніцтва па выхадцах з Беларусі ў расійскай амерыканістыцы, запрашалі яго наведаць Беларусь, удзельнічаць у нашым устаноўчым з'ездзе, спадзяваліся на ўдзел Уладзіслава ў дзейнасці нашага таварыства ў якасці "сябра" (не блытаць з асацыіраваным членам). Таксама выказвалася зацікаўленасць у вывучэнні і папулярызацыі ўкладу ў навуку яго дзеда - бо аказалася, што ён быў з Беларусі.

У другім нашым лісце мы выказаліся пра свае надзеі так:

*"Гэта могуць быць самыя разнастайныя "індыянмэны", пачынаючы ад Льва [Лью] Гурвіца [сапраўды, яго карані аказаліся ў Беларусі], адваката Пелціера, і канчаючы кінарэжысёрам Рабіновічам у Перу.*

*Што тычыцца антраполагаў, то нас працягвае здзіўляць няпоўны трыкутнік "Гольдэнвейзер (Кіеў) - Радзін (Лодзь) - ? (Беларусь; чаму б, напрыклад, не Гомель?)", хоць мы адшукалі некалькі аўтараў-папулярызатараў і "празмерна" вузкіх спецыялістаў (адна жанчына з першай групы напісала паўтара дзясятка кніг пра індзейцаў)* [С. Блікер]".

Згаданыя амерыканскія навукоўцы - буйныя прадстаўнікі індзеяністыкі і як практычнай, так і тэарэтычнай амерыканскай этнаграфіі (этналогіі) у цэлым, і ў гэтай катэгорыі дагэтуль не знайшліся роўныя ім яўрэйскага або любога іншага паходжання родам з Беларусі або Расіі.

У сваім адказе 25.03.1988 г. Уладзіслаў паведаміў, што, працуючы ў Інстытуце этнаграфіі, ён з 1981 па 1986 г. займаўся становішчам індзейцаў у ЗША, а потым перайшоў да праблематыкі, звязанай з яго спецыялізацыяй на гісторыі ЗША 19 ст.

Далей ён растлумачыў сваю сувязь з Беларуссю: дзед, *"вядомы ў мінулым аграном"*, нарадзіўся ў Магілёўскай губерні, пераехаў у Расію яшчэ да рэвалюцыі і працаваў спачатку ў Яраслаўскай, а потым Маскоўскай абласцях. Гэтых звестак пра паходжанне і пражыванне расійскага агранома П. І. Стэльмаха мы не знаходзілі ў інтэрнэце і іншых крыніцах, акрамя таго, што ён неяк звязаны з Яраслаўлем: Павел Іванавіч разам з суаўтарамі ствараў кнігу: Смирнов В. М., Стельмах П. И., Кирюнова А. Н. Лугопастбищное хозяйство. Ярославль: Кн. изд-во, 1959.

У інтэрнэце маці аляскінскага місіянера родам з Менскай губерні Паўла Шадуры называюць "Praskovia Shadura (Stelman)" - апошняе можа быць памылкай пры напісанні прозвішча Стэльмах (Stelmakh, Stelmah).

Кандыдат гістарычных навук (дысертацыя 1984 г. "Індзейцы рэзервацый у сучасным гаспадарчым жыцці ЗША") У. Г. Стэльмах працаваў у Расійскім інстытуце культуралогіі (сектар прыкладной культуралогіі і культурнай антрапалогіі, раней - сектар праблем культурнай палітыкі), які, існуючы з 1932 г., быў закрыты ў 2014 г.

**Літ.:**

*6097 Коренное население Северной Америки в современном мире / отв. ред. В. А. Тишков. М., 1990.*

*12458 Стельмах В. Г. Самоуправление индейских резерваций в США // Исследования по прикладной этнологии: бюллетень. - М., 1991. - Сер. Б. - № 3.*

**ТРУСЕВІЧ Нікалас** - нарадзіўся ў Indian Country (на тэрыторыі рэзервацыі). З біяграфічнай даведкі ў кнізе Б. Рагулі "Беларускае студэнцтва на чужыне" (1996; 2 выд., 2006) вынікае, што яго бацька Лявон (Leo Trusewitsch) нарадзіўся ў 1924 г. у *"вёсцы Паланой каля Наваградка"*. Вучыўся ў пачатковай школе ў Паланоі, потым у карэліцкай сямігодцы. Там жа гаворыцца, што ў час вайны *"працаваў настаўнікам гісторыі і геаграфіі на Лідчыне"*, хаця, вядома, гэта можа быць занадта "сціплая" характарыстыка гэтага перыяду ў яго жыцці. Не кажучы пра жыццё і дзейнасць у перыяд нямецкай акупацыі і самога Рагулі.

У Германіі жыў у лагеры Рэгенсбургу, вучыўся ў Міхэльсдорфе і Марбургу - дзякуючы Універсітэту Філіпс індзейцы ў Арызоне пазней лячылі ў яго зубы - у 1950 атрымаў дыплом лекара-дантыста і праз месяц, 4 ліпеня, прыбыў у Нью-Ёрк. (З тарашкевіцы:) *"Праз пяць гадоў*








**Postcard from Albert Cromwell (Whiteriver, Arizona)**




***Апач Альберт Кромвель даслаў паштоўку з відам яго мястэчка ў арызонскай рэзервацыі (Fort Apache Reservation)***

*настойлівай працы закончыў Чыкагскі ўніверсітэт і атрымаў новы, амерыканскі дыплом хірурга-дантыста. Па амерыканскіх законах, кожны лекар павінен быў адслужыць два гады ў войску. Лявон Трусевіч пайшоў у службу аховы здароўя амерыканскай арміі. Гэтая служба мела ўсе прывілеі ваеннага флоту. У яе абавязкі ўваходзіў нагляд за здароўем службоўцаў з аховы берагоў Амерыкі, цывільных матросаў, дзяржаўных вязняў і амерыканскіх індзейцаў.*

*У 1958 г. быў накіраваны ў індзейскі рэзерват у Арызоне. Ажыццявілася дзіцячая мара ўбачыць герояў Купера і Майн Рыда. Сям'я пражыла там тры гады. Сын Лявона Трусевіча, які нарадзіўся ў рэзервацыі, быў прыняты ў індзейскае племя. Гэта быў вялікі гонар.*

*У 1960 г. прайшоў рэзідэнтуру ў ваенным шпіталі Нью-Ёрка. Пасля заканчэння атрымаў накіраванне ў Заходнюю Вірджынію лекарам жаночай турмы, дзе сярод іншых адбывалі тэрмін пакарання асобы, што супрацоўнічалі з японцамі і немцамі падчас Другой Сусветнай вайны. У 1963 г. Трусевіча пераявлі ў Дэтройт (Мічыган), тут пражылі чатыры гады. З Дэтройта - у Фларыду, каб наглядаць за пабудовай новага шпіталя. Меркавалася - толькі на адзін год, аказалася, што адслужыў там аж чатырнаццаць гадоў, да 1981 г.*

*Пасля 27 гадоў вайсковай службы выйшаў на пенсію ў чыне капітана (ранг ваеннага флоту), ці палкоўніка (ранг арміі). Жыве ў Фларыдзе з жонкай і дзецьмі.*

*Падчас усёй службы Лявон Трусевіч супрацоўнічаў з беларускімі арганізацыямі на чужыне і падтрымліваў іх. Дзе б ён ні паяўляўся, хутка знаходзіў землякоў і актыўна ўключаўся ў беларускую грамадскую дзейнасць".*

Сястра Ніка - Elizabeth T. Cohill - нарадзілася пасля ад'езду з Арызоны.

Раней у артыкуле пра Лявона Трусевіча мы адзначалі, што яго стаматалагічная місія сярод індзейцаў была па лініі Індзейскай службы здароўя - гэта было напісанае *"не падумаўшы"*, бо нават і ў Рагулі было пра тое, што ў свой час ахова здароўя індзейцаў была часткова *"ваенізаваная"* - толькі потым гэта перайшло да Indian Health Service. Мы атрымалі адказ ад першага стаматолага-індзейца Джорджа Блю Струса (George Blue Spruce), які параіў нам звярнуцца да Dr Timothy Lozon, Director, Division of Oral Health, Indian Health Service (студзень 2015 г.). Тым не менш, рэзервацыю, дзе нарадзіўся Нік, лакалізаваць гэта не дапамагло.

**Літ.:**

*12456 Рагуля Б. Беларускае студэнцтва на чужыне. 2-е выд., выпраўл. й дап. Мн., 2006.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou,***
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*
*Индейцы, Indianie, indigenas, indios de America y Belarus.*





# "Дняпроўскія галасы ў Дуброўне"

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)*

"Салаўіныя advancementнoткі" сабралі дарослых і юных выканаўцаў.







А пасля гала-канцэрту адбылося ўзнагароджанне ўдзельнікаў фэсту і абрад "Пасахі на добрыя шляхі".



З гонарам прадставіў Гарадзеншчыну на Міжнародным фестывалі "Дняпроўскія галасы ў Дуброўне" Народны фальклорны гурт "Талер" аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры Лідскага раёна.









Некалькі дыпломаў і цудоўны настрой прывезлі лідзяне з берагоў Дняпра.

***Паводле СМІ.***

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Адрас рэдакцыі:***
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 26.06.2023 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 2,75 друкаванага аркуша.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://kamunikat.org/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*